*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

**№ 109 (461)**

Серада, 17 чэрвеня 1998 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 3000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.


# Народная Воля









**Сонца**

| | Усход | Заход |
|---|---|---|
| Віцебск | 4.18 | 21.42 |
| Магілёў | 4.26 | 21.32 |
| Гомель | 4.32 | 21.21 |
| Мінск | 4.36 | 21.43 |
| Гродна | 4.53 | 21.57 |
| Брэст | 5.03 | 21.48 |

*Апошняя квадра 17 чэрвеня.*



## В начале недели президент Беларуси на два дня отбыл в Египет – в Северную Африку, к древним пирамидам, в сказочный город Каир. Отбудут ли в эти же дни из Беларуси в свои столицы послы Германии, Франции и Америки? Быть может, вековечный сфинкс подскажет наимудрейшее разрешение проблемы с ремонтом жилья дипкорпуса в “Дроздах”...

### У Мінску адбылося чарговае пасяджэнне дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання

Жаданне дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання, якія засталіся вернымі Канстытуцыі 1994 года, працаваць больш актыўна выразна праявілася падчас чарговага дэпутацкага сходу, які прайшоў у мінулыя выхадныя ў Мінску.

Па ініцыятыве Анатоля Лябедзькі, Станіслава Шушкевіча і іншых парламентарыяў у парадак дня сходу было дадаткова ўключана пытанне аб дзейнасці Вярхоўнага Савета. Кіраўнік парламента Сямён Шарэцкі праінфармаваў аб шматлікіх цяжкасцях, з якімі сутыкаецца Прэзідыум Вярхоўнага Савета, — немагчымасць выкласці сваю пазіцыю ў афіцыйных сродках масавай інфармацыі, пастаянны “прэсінг” з боку ўлад, адсутнасць фінасаў і інш.

Людміла Гразнова, Валерый Шчукін, Уладзімір Нісцюк і іншыя выступоўцы, пацвердзіўшы існаванне аб’ектыўных цяжкасцяў, тым не менш адзначылі, што Прэзідыум Вярхоўнага Савета апошнім часам прыкметна знізіў актыўнасць, а яго кіраўнік спрабуе вырашаць любыя, нават самыя дробныя пытанні ў адзіночку. Дэпутаты вырашылі вярнуцца да гэтага пытання і разгледзець праблему зноў, але ўжо з улікам заўваг, на пашыраным пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета.

З дакладам аб парушэнні правоў чалавека ў Беларусі на сходзе выступіў Мячыслаў Грыб, а Генадзь Карпенка праінфармаваў прысутных аб цяперашняй сітуацыі ў рэспубліцы. Па яго словах, рост аб’ёмаў вытворчасці, пра які безупынна гавораць улады, трымаецца на росце грашовай масы і пагаршэнні ўзроўню жыцця насельніцтва. Характэрна, што ўзровень інфляцыі, вызначаны прэзідэнтам на 1998 год, ужо пяройдзены. Па-ранейшаму Беларусь мае рэзка адмоўнае сальда ў гандлі (каля 1,5 млрд. долараў). Адначасова нашы бліжэйшыя суседзі — Латвія і Літва — маюць станоўчае сальда, прыкладна 1 і 1,2 млрд. долараў адпаведна.

### Дэлегацыя Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання адправілася ў Польшчу

Раніцай 15 чэрвеня дэлегацыя Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання на чале са спікерам Сямёнам Шарэцкім прыбыла ў Варшаву. У яе складзе 10 дэпутатаў, у тым ліку Мячыслаў Грыб, Анатоль Лябедзька, Сяргей Калякін, кіраўнік сакратарыята Валянціна Свяцкая.

Чакаецца, што падчас амаль тыднёвага візіту беларускія дэпутаты азнаёмяцца з дзейнасцю сваіх польскіх калег і правядуць серыю сустрэч на высокім афіцыйным узроўні.

**Уладзімір ГЛОД.**

**Пратэст**

### Спыніць праследаванне за палітычныя перакананні!

Дэпутаты сацыял-дэмакратычнай фракцыі Вярхоўнага Савета 13-га склікання, сярод якіх Аляксандр Бухвостаў, Павел Знавец, Уладзімір Нісцюк, Мечыслаў Грыб і іншыя, выступілі з заявай з выпадку праследаванняў за палітычныя перакананні. Яны адзначаюць, што з парушэннем закона (паводле так званых дэкрэтаў прэзідэнта) да судовай адказнасці прыцягваліся многія дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га і 13-га скліканняў. З грубым парушэннем артыкула 93 Канстытуцыі 1994 г. арыштаваны, а затым і асуджаны дэпутат Вярхоўнага Савета У.Кудзінаў. Незаконна арыштаваны і зняволены ў следчым ізалятары дэпутат А.Клімаў. Незаконна падвяргаліся затрыманням, адміністрацыйным арыштам і буйным штрафам за ўдзел у палітычных акцыях дэпутаты М.Грыб, П.Знавец, В.Шчукін і іншыя. Большасць дэпутатаў пазбаўлены магчымасці афіцыйна працаваць на тэрыторыі краіны, што само па сабе з’яўляецца парушэннем канстытуцыйнага права на працу.

Члены сацыял-дэмакратычнай фракцыі ў Вярхоўным Савеце 13-га склікання патрабуюць аднаўлення законнасці ў краіне, вызвалення ўсіх палітычных вязняў і спынення праследаванняў грамадзян за палітычныя перакананні.

**Алесь ДРАБЧУК.**

### 25 чэрвеня прадстаўнікі БКДП збіраюцца правесці ў Мінску акцыю пратэсту пад сацыяльнымі лозунгамі

25 чэрвеня прадстаўнікі Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП) плануюць правесці ў Мінску шэсце і мітынг пад сацыяльнымі лозунгамі. Заяўка на правядзенне акцыі накіравана ў Мінгарвыканкам.

Такім чынам БКДП мае намер выказаць свой пратэст у сувязі з невыкананнем уладамі Генеральнага пагаднення на 1998—2000 гады, заключанага паміж прафсаюзамі, урадам і наймальнікамі. Прадстаўнікі кангрэса, у прыватнасці, лічаць за неабходнае ўстанавіць з 1 ліпеня гэтага года мінімальную заработную плату і тарыфную стаўку 1-га разрада на ўзроўні мінімальнага спажывецкага бюджэту. Суадносіны гэтых паказчыкаў супярэчаць працоўнаму заканадаўству, якое гарантуе наёмным работнікам аплату працы “не ніжэй за ўзровень, які б забяспечваў іх сем’ям свабоднае і годнае існаванне”.

Паводле звестак БелаПАН, арганізатары мітынгу прапанавалі далучыцца да іх прадстаўнікам Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі і Беларускай незалежнай асацыяцыі прафсаюзаў.

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**

**Проблемный репортаж**

## Берегите лес от пожара! А кто такой “берегите”? Леший его знает...

**Людмила МАСЛЮКОВА, политический обозреватель “Народной воли”.**

Десант минских журналистов отбыл от Дома прессы в лес в знаменательную пору приближения лета. Пассажиров микроавтобуса сопровождали руководители Минского производственного лесохозяйственного объединения — генеральный директор Николай Крутой и его заместитель, главный лесничий Валентин Кошель. Выездная бригада с ветерком добралась до кабинета, где гостей встретил главный лесничий Борисовского лесхоза Петр Корнейчик. Заинтересованные хозяева предложили вниманию столичных фотокоров, репортеров и обозревателей проблему предохранения белорусских лесов от пожаров.

В рамках означенной темы журналистам показали многое. Осмотрели пункт противопожарного инвентаря в селе Пчельник, один из тех, которые имеются в лесхозах республики как обязательное дополнение к малосильной сельской государственной противопожарной охране. Наблюдали, как рабочие взрыхливают фрезой “грядку” земли вдоль шоссе и по просеке: у них это называется “минерализованные полосы” и они тоже противопожарного назначения, и их в Беларуси в целом только в прошлом году проложено новых 60 тысяч километров. Задирали головы на тридцатиметровую вышку возле лесхозовского цеха переработки мелкотоварной древесины — тоже, естественно, противопожарную, которых, по данным Министерства лесного хозяйства Беларуси, в перспективе будет в республике до 1 тысячи штук. Посетили борисовский питомник, один из лучших имеющихся в республике 176-ти, где проникались чувством, как трудно вырастить из пятнадцатисантиметровой трехлетней сосенки столетнюю могучую сосну. Притормозили у оборудованной “шалашами” и кострищем автостоянки на трассе, где и обнаружили предупредительный знак с надписью “Берегите лес от пожара!”, и на случай несбережения означенный ниже телефон 2-07-00.

Радение, мастерство и патриотизм белорусских лесоводов не вызывали сомнений. Об их самоотверженности свидетельствовала и рожденная в здешних чудесных борах байка нового времени об одном соотечественнике, который в целях обмена опытом ездил, кажется, в Финляндию, где проживал в отеле с высоким уровнем сервиса. Мужика спросили, а что, мол, девочек тебе там предлагали? На что трудолюбивый белорус ответил: “Да за такие деньги я лучше еще одну бензопилу куплю!” Ручные импортные бензопилы не редкость в глубинке, где они верно служат на рубках ухода и санитарных, а тем более незаменимы на авралах при возгорании.

Из всего увиденного и познанного под сенью борисовских растущих сосняков, ельников и березняков вытекал уже несколько недоуменный вопрос: так почему же все-таки регулярно горит “синим пламенем” государственный лесной фонд Беларуси?

Как утверждает официальная статистика, только в 1997 году зафиксирован 1361 случай пожара на общей площади более 560 гектаров. В предыдущем 1996-м пожаров было меньше, но это не тенденция, а, как говорят сами специалисты, год на год не приходится. На угодьях Борисовского лесхоза случилось пожаров: в 1996 году — 692, в 1997 — 204, за пять месяцев 1998 года — 67.

Кто систематически поджигает гослесфонд Беларуси?

Журналисты вместе с руководителями и специалистами областного и районного масштаба высадились на горелой делянке. Она выгорела в памятном 1992 году: жуткое было лето, гарью несло со всех сторон, армию подняли на борьбу с огнем, убытки считали миллионами в тех еще деньгах... Первыми на пепелище проросли кипрей (он же Иван-чай) и дикая малина. Березки-самосевки взошли и быстро вытянулись вверх. Ну а уже лесоводы посадили здесь ель колючую (она же “голубая”), ясень да клен. За пять с лишним лет затянулась черная рана кружевом травинок и листвы, но заживать ей еще долго. Тогда погибли на делянке двадцатилетние сосны.

Почему 11 августа 1992 года полыхнуло здесь, под деревней Бытча? Причина возгорания осталась неизвестной, преступники не установлены, только деревенская молва глухо донесла: здешние же мужики в низинке чего-то утворили...

Из “чего-то” штормовой ветер при 32 градусах жары раздул верховой пожар, огонь понесся по кронам деревьев со скоростью 10 километров в час, за 2 часа выжег 120 гектаров сосняка и 5 гектаров болота: ночь, небо в красном зареве, головешки с неба падали в колхозную силосную яму, занялись деревенский дом и сарай — все дотла.

Живое яркое воспоминание о бедствии и то понуждает в голос крикнуть: “Люди добрые, берегите же лес от пожара!” Это ж наше с вами национальное достояние: наша землица на треть покрытая лесом, с общим запасом более 970 миллионов кубометров древесины, мы за нее у иностранцев только в прошлом году выручили 23 миллиона долларов, и это ж легкие всей Европы, производящие до 77 миллионов тонн кислорода, не говоря уже о лесе как о природной сокровищнице зверья, ягод, грибов, целебных трав.

Проблема, однако, состоит как раз в том, что гослесфонд поджигает не кто иной, как народ Республики Беларусь. Борисовские лесоводы для того и зазвали прессу в густую чащу, чтобы она оттуда, а не с городского асфальта, еще раз доходчиво и эмоционально воззвала к уму и совести нации. Хорошо, еще раз воззвали, — а будет ли прок?

На горелой поляне журналисты спросили хозяев: вы, дескать, десятилетиями просвещаете население насчет сбережения лесов — так есть ли прогресс? Николай Крутой, Валентин Кошель и Петр Корнейчик честно и единодушно признались, что от призывов ничего не меняется.

Минлесхоз республики не без гордости сообщает, что в прошлом году пойман 1531 лесонарушитель. Непойманных во много раз больше. А сколько и как наказаны из числа пойманных? В трех шагах от незатушенного кострища задерживают, к примеру, туриста, а он в суде отвергает вину, доказательств нет, его отпускают. А кто вышвырнул из окна крутого “мерса” злосчастный окурок, перелетевший за “минерализованную полосу”? Ищи-свищи на магистрали ветра! А колхозный зловещий для лесных угодий весенний пал прошлогодней сухой травы? Сущее наваждение, и оно из года в год повторяется. Крайне трудно загасить “угоревший” в невидимых глубинах торфяник... Еще труднее постичь разумом мотивы, по которым народ поджигает лес: сдуру, спьяну, из хулиганства, по партизанской привычке, из баловства, по недомыслию, для веселья, из любопытства, от скуки, для света, погреться, по рассеянности, от невежества, со злости и так далее и просто так.

**(Окончание на 2-й стр.)**

## Лобовая “атака” Валерия Щукина на здание Министерства внутренних дел завершилась для депутата Верховного Совета 13-го созыва 10 сутками ареста

Происшествие имело место 13 июня, в субботу. Последовало оно вскоре после завершившегося очередного собрания депутатов Верховного Совета 13-го созыва часов в 17. Адрес события: проспект Скорины, дом №13 — здание Министерства внутренних дел Республики Беларусь. Сам Валерий Щукин в интервью корреспонденту БелаПАН по горячим следам случившегося отметил, что предпринятая им акция “носит исключительно политический характер”.

Акция заключалась в том, что депутат, вооружившись баллончиком с зеленой аэрозольной краской, в простенке между окнами здания МВД со стороны проспекта Скорины прямо на стене выразил требование освободить депутата Андрея Климова, который помещен в СИЗО на Володарке более четырех месяцев тому назад и о котором Валерий Щукин неоднократно рассказывал читателям со страниц “Народной воли”. Жест солидарности с коллегой привел к тому, что теперь и сам защитник будет коротать дни в спецприемнике-распределителе на улице Окрестина.

Выражая свое требование на стене, Валерий Алексеевич, вероятно, от волнения, изобразил его с грамматической погрешностью. Он вывел краской буквально так: “Свобоводу депутату Климову!”. В минуты сильного напряжения депутат Щукин, бывало, слегка заикался и перед микрофоном Овального зала, когда по тому или иному поводу шел в наступление, пренебрегая едва заметным дефектом речи, который имел в детстве и в основном преодолел с возрастом.

Вполне вероятно, что в данном случае “сво-бо-бо-да” у автора надписи вышла потому, что он при поддержке нескольких других депутатов Верховного Совета 13-го созыва настаивал на организации коллективных акций в поддержку находящегося под арестом Андрея Климова. Поскольку опальный парламент решил обдумывать это предложение на Президиуме, то импульсивный и наиболее “действенный” депутат Щукин предпринял акцию в одиночку — скорее уж от отчаяния, нежели с расчетом на сколько-нибудь весомый результат.



Лобовую “атаку” в одиночку депутата Валерия Щукина на здание Министерства внутренних дел наблюдали двое журналистов, третий прибыл к развязке.

Как видели наблюдавшие, протестующий вынужден был трижды обвести струей краски буквы на стене, прежде чем одна за другой прибыли две милицейские машины. Далее события развивались привычным образом. Нарушителя какое-то время подержали в одном из подъездов здания МВД, потом транспортировали в РОВД Центрального района, позже препроводили в спецприемник-распределитель ГУВД Мингорисполкома на улице Окрестина.

Надпись на здании МВД уничтожили оперативно — в субботу же. Сейчас вместо нее на фасаде красуется свежевыкрашенный простенок между окнами, отличающийся более насыщенным и темным цветом по сравнению с остальной блекло-желтой отделкой.

В понедельник, 15 июня, административный судья Центрального суда города Минска Анатолий Борисенок, знающий задержанного по предыдущим гражданским делам подобного рода, рассмотрел проступок депутата Валерия Щукина и вынес решение: 10 суток ареста — за мелкое хулиганство по статье 156 Административного кодекса. К часу дня ближайшее будущее устроителя одиночной акции протеста было предрешено. Подоспевшим к окончанию процесса одиночным же журналистам Валерий Алексеевич успел сказать, что ему “адвоката не дали” и что сам он “голодный”. Репортер БелаПАН, впрочем, сообразил по пути прихватить для арестанта батон белого хлеба, поскольку многим уже известно, что по части пропитания депутат, как сам он выражается, “хлебная душа”.

По решению суда Валерий Щукин будет отбывать наказание до 23 июня — десять суток, считая с 13 июня, со дня задержания. Это его вторая десятисуточная “отсидка”. О первой, которую он отбыл за решеткой на переломе декабря и января, встретив там и Новый, 1998 год, более других информированы читатели “Народной воли”. Тогда, выйдя на волю, внештатный автор газеты, исходя из личного опыта, подробно рассказал о быте и нравах минского приемника-распределителя.

По следам той публикации спустя время в редакцию прислал теплое письмо один из арестантов этого заведения: человек благодарил Щукина за то, что после его статей содержащимся в нем людям стали выдавать не “усеченную”, а полноценную ложку — и с “хлебалом”, и с “держалом”. Можно надеяться, что достигнутый тогда прогресс скажется теперь на условиях быта “повторного” арестанта Валерия Щукина.

**Людмила ВАЛЕНТИНОВА.**

### Ознакомительная поездка делегации бундестага в Минск

В период с 10 по 13 июня 1998 года в Минске находилась делегация германского бундестага в составе 5 человек, которая также приняла участие в семинаре фонда Фридриха Эберта. Делегацию возглавляла член бундестага госпожа Ута Цапф (СДПГ), заместитель председателя парламентской группы “Беларусь” бундестага ФРГ. В поездке приняли участие и другие члены парламентской группы “Беларусь”: господин Райнер Кжискевич (ХСС/ХДС), господин Йорг Таусс (СДПГ), господин профессор Герт Вайскирхен (СДПГ) и госпожа Ирмгард Шеве-Геригк (союз “90-зеленые”).

11 и 12 июня делегация участвовала в организованной фондом Фридриха Эберта конференции на тему “Роль государства в Беларуси и Германии”. Для участия в конференции были приглашены представители правительства, экономики и политических организаций. Кроме того, во время визита делегация провела ряд бесед с представителями бюро ОБСЕ в Минске, представителями неправительственных организаций и депутатами Верховного Совета 13-го созыва.

Политическая ситуация в Беларуси коренным образом изменилась после проведения референдума в октябре 1996 года. Парламентская группа “Беларусь” бундестага ФРГ не поддерживает официальных отношений с назначенным президентом Лукашенко парламентом. Однако сохраняются контакты с избранными демократическим путем парламентариями. Своим визитом делегация поддержала демократические силы в Беларуси.

**Памяць**

### “Беларуская ластаўка” з Парыжа

У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі 18 чэрвеня адкрываецца выстава, прысвечаная часопісу “Культура” і яго рэдактару Ежы Гедройцу, які нарадзіўся ў Мінску. У 1947 годзе ён заснаваў у Парыжы часопіс “Культура” і на працягу вось ужо 50 гадоў з’яўляецца яго рэдактарам. У апошнія гады ён усё часцей звяртаецца ў думках і справах да радзімы свайго дзяцінства. Цяперашняя выстава — першая ластаўка ў распачатай справе азнаямлення з яго творчасцю і спадчынай. Выстава ладзіцца з падтрымкай архіва Літаратурнага інстытута ў Парыжы.

**Алесь ДРАБЧУК.**

**Надвор’е**

17 і 18 чэрвеня на тэрыторыі рэспублікі захаваецца пераменная воблачнасць, месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ўначы +9...+14, удзень — +19...+24.



**Ты хочаш жыць у свабоднай дэмакратычнай Беларусі? Тваё законнае права абараняе “Народная воля” – адзіная ў краіне штодзённая незалежная газета. Не змог падпісацца да 15 чэрвеня? “Белпошта” і “Белсаюздрук” прадоўжылі падпіску да 20 чэрвеня.**

*У свеце праўды жыць імкніся,*
*На “НВ” ты падпішыся!*

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **6 3 2 2 2** (індэкс выдання)

Народная Воля

Колькасць камплектаў

на 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газету **6 3 2 2 2** (індэкс выдання)

ПВ | месца | літар

Народная Воля

Кошт: падпіскі ____ руб.; пераадрасоўкі ____ руб. Колькасць камплектаў

на 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

Народная Воля
17 ЧЭРВЕНЯ 1998 г.

Асабісты погляд

# Нарэшце судзяць Валерыя Буяка

Амаль два гады адсядзеў пад следствам кіраўнік трастававай кампаніі з загадкавай, але прыгожай назваю "Сэкай". Нарэшце судзяць. Матэрыялаў накапалі шмат, бо хто шукае, той хоць што-небудзь знойдзе. Пасяджэнні адбываюцца ў судзе Фрунзенскага раёна. Вось і мяне запрасілі павесткаю ў якасці пацярпелага і сведкі.

Кожнага пацярпелага суддзя дапытвае, ці знаёмы ён з падсудным, адкуль даведаўся аб гэтай кампаніі, калі і колькі грошай паклаў. На працягу допытаў прама або ўскосна і са здзекам даюць зразумець, што аказаўся ты даверлівым і наіўным, калі паклаў свае грошы ў "Сэкай".

Але не ўсё ў гэтай справе такое простае і зразумелае, як можа здацца пры першым і павярхоўным разглядзе. Як паведаміла суддзя Зайцава Анастасія Рыгораўна, у якасці галоўных абвінавачванняў В.Буяку прад'яўляецца наступнае:

— што ён падманным шляхам завалодаў вялікімі сродкамі даверлівых укладчыкаў;

— што працаваў без ліцэнзіі;

— што не даплаціў падаткаў.

Але фінансавая дзейнасць кампаніі, паводле існуючага заканадаўства ды Указа прэзідэнта №157 (1996 г.), юрыдычна не забаранялася. Укладчыкаў ніхто не прымушаў, яны добраахвотна прыносілі свае грошы, атрымлівалі працэнты і ў любы час маглі вярнуць свае зберажэнні. Кампанія "Сэкай" не абанкруцілася па сваёй дзейнасці, а яе няздольнасць разлічыцца з усімі ўкладчыкамі была, я лічу, справакаваная.

Галоўным пытаннем к пацярпеламу, да якога суддзя падыходзіць асцярожна, як бы падкрадваючыся да сваёй ахвяры і рыхтуючы пацярпелага папярэднімі пытаннямі, з'яўляецца наступнае: "Дык згодны вы, каб суд спагнаў вашы грошы з падсуднага?". Калі пацярпелы адказвае адмоўна, гаворыць, што грошы ён даваў па дагаворы аб займе Валерыю Буяку, таму хоча атрымаць іх назад менавіта ад яго, а дзяржаве не даварае, бо яна яго сама абрабавала раней яшчэ болей, гэта, адчуваецца, не падабаецца суддзі. Яна задае пацярпеламу блытаныя пытанні, а потым гаворыць: "Тады падпішыцеся, што адмаўляецеся ад спагнання грошай праз суд". Гэтая прапанова, на мой погляд, з'яўляецца замаскіраванай псіхалагічнай пасткай, каб абвінаваціць падсуднага з дапамогаю пацярпелых, бо хто ж захоча падпісвацца супраць сваіх інтарэсаў. А вось падпісвацца, каб спагнаць свае грошы, не патрабуюць. Некаторым пацярпелым без розніцы, як вяртаць грошы; яны гэтых хітрыкаў не зразумелі. Але дамагацца паказанняў, тым больш подпісаў, супраць сябе забараняе артыкул 27 дзеючай Канстытуцыі. Калі ж пацярпелы падпісвае сваю адмову, то ён прызнае арышт Буяка не вельмі законным і абгрунтаваным. Так яно, напэўна, і ёсць на самой справе. Ведучы следства і праводзячы суд, дзяржава імкнецца зняць з сябе папрок у тым, што яна раптоўна і нечакана перашкодзіла далейшай працы кампаніі і магчымасці разлічыцца з укладчыкамі паступова. Зараз на судзе В.Буяк абяцае выплаціць усе грошы паступова за два гады. Дзяржава пасадзіла В.Буяка, напэўна, не зусім абгрунтавана і зараз гэтую неабгрунтаванасць хоча прыкрыць з дапамогаю пацярпелых, бо тыя сумы, якія ўлічваюцца для спагнання, вешаюцца яму на шыю, як камень, для налічэння тэрміну пакарання, у тым ліку і для абгрунтавання двух гадоў, якія ён ужо амаль адсядзеў. Вельмі дрэнна, калі сядзяць па падазрэнні, а потым, бароначы гонар мундзіра, імкнуцца сфабрыкаваць доказы вінаватасці. Пры гэтым суд, які павінен быць аб'ектыўным, ператвараецца ў судзілішча, у якім не судзяць, а засуджваюць. Абвінавачанне, што кампанія "Сэкай" працавала без ліцэнзіі, з'яўляецца недарэчным, бо для трастававых кампаній да указа яна была неабавязковай, а пасля указа фінансавая дзейнасць, каб не парушаць яго, была прыпыненая самой кампаніяй. Калі б наяўнасць ліцэнзіі лічылася абавязковай, то ці дазволіла б дзяржава працаваць кампаніі ажно 4 гады — з 1992 па 1996. Такое немагчыма. Нельга і незаконна распаўсюджваць дзеянне указа на перыяд, калі яго яшчэ не было. Неаб'ектыўныя і перавышаныя абвінавачанні не ўпрыгожваюць дзяржаву і суд і наносяць шкоду іх аўтарытэту ў насельніцтва, у тым ліку і прэзідэнта, які адказвае за дзяржаву, а суд і следства яго падводзяць. Але як можна падвесці прэзідэнта, калі ён мае неабмежаваную ўладу?

Суддзя ў многіх пытаецца, ці чыталі яны Указ прэзідэнта №157 і ці памятаюць, што ў ім напісана. Калі адказваюць, маўляў, не чыталі або не памятаем, то суддзя гаворыць, што грошы па ўказе можна было выдаваць, забараняўся толькі прыём. Але гэта не так, бо, напэўна, сама суддзя не чытала указа або скажае яго, каб заблытаць пацярпелага. Навошта? Калі 28 чэрвеня 1996 года прадстаўнік укладчыкаў Леў Сіманян атрымаў у Адміністрацыі прэзідэнта пісьмо з дазволам аб выдачы грошай, то яго ўжо немагчыма было выкарыстаць, бо за дзень да гэтага В.Буяка арыштавалі. Такім чынам, сама дзяржава перашкодзіла выдачы грошай укладчыкам. Указ, на жаль, не прадбачваў механізмаў разлічвання кампаніі з укладчыкамі.

Галоўным пунктам Указа прэзідэнта №157 "Аб мерах па ўпарадкаванні банкаўскай і іншай фінансавай дзейнасці" з'яўляецца: "На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь забараняецца дзейнасць суб'ектаў гаспадарання, якія не з'яўляюцца банкамі, але ажыццяўляюць банкаўскія і іншыя фінансавыя аперацыі, звязаныя з прыцягненнем грашовых сродкаў грамадзян і юрыдычных асоб (далей — нябанкаўскія фінансавыя арганізацыі) без адпаведных ліцэнзій або згоды Нацыянальнага банка". Да указа забароны не было. Дык дзе ў гэтым ўказе дазвол аб выдачы грошай укладчыкам? Замест таго каб даць магчымасць В.Буяку паступова разлічыцца з укладчыкамі, у чым яго права і абавязак, яго арыштавалі і судзяць. Як вядома, кампанія "Сэкай" паспяхова размяшчала атрыманыя грошы ў камерцыю і вытворчасць, больш паспяхова, чым дзяржава, атрымлівала нядрэнныя прыбыткі і дзялілася імі з укладчыкамі высокімі працэнтамі.

Грошы, як гэта адбываецца ў іншых краінах, павінны працаваць і прыносіць прыбытак не толькі дзяржаве, кампаніям, фірмам, але і грамадзянам. Гэта не махлярства, як некаторыя гавораць, а нармальная з'ява, якая завецца камерцыяй і бізнесам. Павінны выконвацца інтарэсы абодвух бакоў: тых, хто выкарыстоўвае грошы, і тых, хто іх укладвае. Інакш не можа быць, бо менавіта гэта будзе сапраўдным махлярствам замест таго, якое шукаюць у В.Буяка. Дзяржава не павінна цалкам прысвойваць сабе прыбытак, атрыманы ад карыстання ўкладамі насельніцтва. Такая дзяржава не заслугоўвае павагі: яна не сябар, а эксплуататар. Таму працэнты за ўклады павінны быць адпаведнымі.

Працэнты ў "Сэкая" былі вышэй, чым у ашчадным банку. Канкурэнцыя паміж дзяржаўнымі і камерцыйнымі структурамі складвалася не на карысць першых. Але ўлада ў нас на баку першых, якія і выкарысталі гэтую перавагу. Вось і з'явіўся вядомы указ, ад якога пацярпелі кампанія і ўкладчыкі.

Нечаканасць указа і нядобразычлівасць да кампаніі і ўкладчыкаў, а таксама чуткі аб чакаемых змяненнях, рыхтуемых дзяржавай, справакавалі паніку і паралізавалі дзейнасць кампаніі "Сэкай", бо за кароткі час разлічыцца з напалоханымі ўкладчыкамі, хлынуўшымі ў "Сэкай, было немагчыма. Паніцы пасадзейнічаў і артыкул у адной з газет у красавіку 1996 года пра парушэнні ў дзейнасці кампаніі "Белсэкай". Гэта была іншая кампанія, нічога агульнага не меўшая з кампаніяй "Сэкай". Але людзі кінуліся забіраць свае грошы, а дзяржава выкарыстала гэтую паніку, каб спыніць дзейнасць непажаданай кампаніі як канкурэнта. Фактычна гэта была барацьба за ўкладчыкаў, як за курыцу, якая нясе залатыя яйкі. Але адзін гаспадар гэтую курыцу корміць добра, а другі — не вельмі. І яна, дурная, не хоча ісці да таго, хто дрэнна корміць. Гэта ўсё не вяжацца з дзеючай Канстытуцыяй: "Дзяржава надае ўсім роўныя правы для ажыццяўлення гаспадарчай і іншай дзейнасці, акрамя забароненай законам, і гарантуе роўную абарону і роўныя ўмовы развіцця ўсіх форм уласнасці (арт. 13)... Ніхто не можа карыстацца перавагамі і прывілеямі, якія супярэчаць закону (арт. 23). ...Ніхто не можа быць прызнаны вінаватым у злачынстве, калі яго віна не будзе ў прадугледжаным законам парадку доказана... Той, каго абвінавачваюць, не павінен даказваць сваю невінаватасць (арт. 26)... Ніхто не павінен прымушацца даваць паказанні і тлумачэнні супраць самога сябе, членаў сям'і, блізкіх родных. Доказы, атрыманыя з парушэннем закона, не маюць юрыдычнай сілы (арт. 27)".

Такім чынам, паводле артыкула 27 Канстытуцыі, суд не мае права дамагацца подпісаў пацярпелых супраць іх інтарэсаў. Такі подпіс не мае юрыдычнай сілы.

Абавязак дзяржавы — дапамагчы вярнуць грошы ўсім укладчыкам, бо кампанія "Сэкай" — гэта незаконнанароджанае дзіця самой дзяржавы. Дык нельга ад яго адмаўляцца.

Укладчыкам нельга лічыць сябе пацярпелымі толькі ад кампаніі "Сэкай" і яе кіраўніка, да чаго іх падштурхоўваюць. Укладчыкі "Сэкай" пацярпелі ад дзяржавы разам з кампаніяй. Менавіта ашчадны дзяржаўны банк заўсёды выплачваў невялікія працэнты. Менавіта ашчадны банк і дзяржава не вярнулі нам старыя ўклады. Менавіта дзяржава стварыла непераадольныя ўмовы для выплаты ўкладаў кампаніяй "Сэкай". Уявіце сабе адваротнае, што вядомага ўказа не было, або ён аказаўся больш прадуманым і добразычлівым да ўкладчыкаў, але калі рыхтаваўся указ, аб укладчыках ніхто і не падумаў. Калі б указ лепш улічыў інтарэсы ўкладчыкаў, тады ніякіх пацярпелых не было б. Ці можна ж было ў такі кароткі час разлічыцца з укладчыкамі? Гэта фізічна немагчыма. Дзяржава сама не зможа спагнаць нашы грошы з Буяка, бо гэта далікатнае і прафесійнае пытанне. Грошы, укладзеныя ў справу, імгненна не вернеш. Толькі Буяку магчыма іх запатрабаваць, а потым паступова расплаціцца з укладчыкамі.

Калі суддзя Зайцава запыталася ў падсуднага, ці прызнае ён сябе вінаватым, ён адказаў, што не прызнае. У сваіх тлумачэннях на судзе ён паведаміў, што калі па лініі Інтэрпола ў японцаў запыталі аб злачынных дзеяннях В.Буяка, яны адказалі, што тое, за што судзяць В.Буяка ў Беларусі, у Японіі злачынствам не лічыцца.

Што ж датычыцца трэцяга абвінавачання аб недаплаце падаткаў, то дасканалай і дастатковай інфармацыяй я не валодаю, але сумнявацца ў гэтым абвінавачанні падставы ёсць. Тройчы, у жніўні 1995 года, лютым і красавіку 1996-га, падатковая інспекцыя правярала "Сэкай", канфіскавала тры камп'ютэры і 10 тысяч долараў, але не залічыла гэтыя грошы ў якасці дадатковых падаткаў. Іх выплацілі некаторым укладчыкам, у тым ліку Паспелаву, які быў кіраўніком ініцыятыўнай групы ўкладчыкаў. Гэта ён падрыхтаваў і падаў заяву аб арышце Буяка. У заяве ёсць подпісы тых укладчыкаў, якія нічога аб сваіх подпісах не ведаюць і такой заявы не чыталі. Паспелаў паклапаціўся аб сабе больш, чым аб астатніх.

Пасяджэнні суда з допытам пацярпелых яшчэ будуць працягвацца, і невядома, калі ж суд вынясе свой вердыкт і якім ён будзе. Хочацца спадзявацца, што ён справядліва адлюструе ўсю рэчаіснасць. Гэта будзе вердыкт ускосна і самім укладчыкам. Сумна становіцца на душы, калі бачыш, як у сучасных умовах Беларусі спраўджваецца вядомая прымаўка, што ад турмы і сумы ніхто не застрахаваны.

**Марат ГІРКО,**
**жыхар г.Мінска.**

Жах!

## Як я быў абрабаваны роднай міліцыяй

Даўно працую над матэрыяламі па чарнобыльскай праблеме. Працяглы час жыў у Гомелі, рабіў частыя выезды ў раёны вобласці. Вось і нядаўна сабраўся туды, узяўшы з сабой трыццаць стотысячных купюр. Усё гэта рупна паклаў пад вокладку, дзе ляжаў пашпарт.

Выправіўшыся на чыгуначны вакзал, прысеў на лаўку адпачыць каля тэатра музычнай камедыі (у мяне хворыя ногі). Была ўжо дзесятая гадзіна вечара. Вось у гэты самы момант перада мною паўсталі два ахоўнікі грамадскага парадку ў плямістай форме, з наганамі, дубінкамі і рацыямі пры баку. Загадалі ўстаць, пачалі шнырыць па кішэнях, паведаміўшы мне, што шукаюць у злачынцаў мак і гашыш.

— А пры чым тут я?! Я — інвалід другой групы, не мне займацца прыгодамі з макам і гашышам, — абурана выпаліў я.

Аднак міліцыянеры працягвалі вытрасаць мае кішэні. Ніжэйшы ростам, узяўшы ў рукі пашпарт, не стаў цікавіцца маім прозвішчам, хатнім адрасам (праверка пашпарта без дай прычыны — гэта таксама, лічу, беззаконнасць). Яго больш за ўсё зацікавіла бугрыстасць пад вокладкай пашпарта. Кінуўшы натрэніраваны позірк на блакітны стосік салідных купюр, марадзёр у міліцэйскай форме імгненна забраў яго, а мне моўчкі вярнуў пісьменніцкі білет, пасведчанне інваліда і пашпарт. Літаральна праз лічаныя секунды рабаўнікі зніклі за вуглом дома №34 па вуліцы Мяснікова. Зніклі, быццам праваліліся пад зямлю, і я ні слова не мог сказаць услед марадзёрам. Мусіць, таму, што быў вельмі шакіраваны: божухна родны, каб міліцыя ды такое чыніла над нявіннымі грамадзянамі! Дзе, у якой іншай краіне свету можна сустрэць вось такіх вартавых грамадскага парадку?

Праз паўгадзіны я быў у гарадскім упраўленні ўнутраных спраў. Дзяжурны маёр, калі я расказаў яму пра ўсё, прапанаваў мне напісаць заяву, што я тут жа і зрабіў.

Мне стала вядома, што пры Міністэрстве ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь створаны аддзел па барацьбе са злоўжываннямі з боку работнікаў міліцыі. Вось, шаноўныя працаўнікі аддзела, вам, як кажуць, і ўсе карты ў рукі: адшукаць і абясшкодзіць марадзёраў. А то чаго добрага, адчуўшы поўную беспакаранасць і прагны апетыт да чужых кашалькоў, малойчыкі ў службовай форме могуць так распаясацца, што выхад на двор з кватэры будзе выклікаць у людзей смяротны жах.

І яшчэ забыўся пра адно. Чаму я не стаў хапаць рабаўніка за руку, у якой былі мае тры мільёны? Чаму? Лепш за ўсё на гэта адказаў мой сябра-юрыст, калі назаўтра завітаў да мяне, даведзенага да дзікай роспачы:

— Ты правільна, Міхась, зрабіў. Інакш атрымаў бы ўдар дубінкай, пасля чаго страціў бы прытомнасць, а твае грошыкі ўсё роўна, як кажуць, плакалі б...

**Міхась ПАРАХНЕВІЧ,**
**пісьменнік.**

Чулі?

## Беларусь у Інтэрнэце

Пераважная большасць жыхароў Беларусі мае вельмі аддаленае ўяўленне аб глабальнай сетцы Інтэрнэт. Але, нягледзячы на гэта, "сусветнае павуцінне Інтэрнэта" нарэшце пачынае аплятаць і нашу краіну, становячыся важным сродкам распаўсюджвання і збору інфармацыі.

Як высветлілася, Беларусь прадстаўлена ў глабальнай сетцы шэрагам праектаў-старонак. Адзін з найбольш цікавых носіць назву "Віртуальны гід па Рэспубліцы Беларусь". Гэтая старонка з'яўляецца плёнам працы незалежнай групы навукоўцаў-беларусаў. Кожны жадаючы тут можа пазнаёміцца з такімі раздзеламі, як беларуская гісторыя, дзяржаўнасць і культура, палітычныя падзеі, гарады, прырода і геаграфія, інфармацыя для турыстаў, а камп'ютэрны слоўнік дапаможа зрабіць пераклад з англійскай мовы на беларускую і наадварот. Маецца таксама і магчымасць вывучэння беларускай мовы праз Інтэрнэт. А раздзел "Генеалогія" дапаможа чалавеку з любога кутка свету адшукаць свае беларускія карані.

Беларуская старонка інтэрактыўная — гэта значыць, што кожны наведвальнік мае магчымасць пакінуць свой водгук пра "Віртуальны гід па Рэспубліцы Беларусь" і навесці кантакты з яго стваральнікамі і іншымі наведвальнікамі. Між іншым, з моманту стварэння старонкі карыстальнікі "сусветнага павуціння" наведалі яе больш за пяцьдзесят пяць тысяч разоў. Старонка (апрача тэксту кніжак беларускіх пісьменнікаў) складзена і на англійскай мове, што, згадзіцеся, вельмі зручна для людзей з замежжа, якія жадаюць бліжэй пазнаёміцца з нашай краінай. Для тых, хто жадае атрымліваць інфармацыю на роднай мове, прадугледжана беларускамоўная версія.

*Адрас "Віртуальнага гіда па Рэспубліцы Беларусь" у Інтэрнэце: http://belarusguide.com/*

**Аляксандр КУДРЫЦКІ.**

## Расійскі дыплом можна будзе атрымаць і ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі

Пачынаючы з новага навучальнага года, выпускнікі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі змогуць атрымаць дыпломы двух узораў — беларускага і расійскага. Аб гэтым паведаміў рэктар БСГА Аляксандр Цыганоў.

Паводле папярэдніх ацэнак, акадэмія паспяхова прайшла атэстацыю, якую праводзілі на працягу некалькіх дзён расійскія спецыялісты. У склад прадстаўнічай камісіі ўваходзілі вядомыя вучоныя і работнікі Міністэрства сельскай гаспадаркі Расіі, а таксама прадстаўнікі Беларускага дзяржаўнага універсітэта і Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання нашай рэспублікі. Яны правяралі веды студэнтаў, знаёміліся з работай выкладчыкаў, а таксама з арганізацыяй практычных заняткаў і навукова-даследчай дзейнасці. Вывады, зробленыя камісіяй, будуць прадстаўлены на зацвярджэнне калегіі Міністэрства агульнай і прафесійнай адукацыі Расійскай Федэрацыі.

Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія першай з усіх навучальных устаноў краін СНД прайшла расійскую атэстацыю.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ.**

Праблемны рэпартаж

# Берегите лес от пожара! А кто такой "берегите"? Леший его знает...

(Окончание. Начало на 1-й стр.)

Разрушительные побуждения человеческие неисчислимы, но менталитет белоруса-поджигателя покоится, похоже, на трех основах: варварство как таковое, практически абсолютная безнаказанность и полная отчужденность от леса, поскольку он ничейный, государственный, всеобщий. Такова данность, и на примерно 127 гектарах общей территории Борисовского лесхоза она остается неизменной.

Что может противопоставить отрасль стихии безалаберности? Если уровень опасности таков, каков он есть, то нужна вроде бы адекватная защита. Может, на порядок мощнее, чем имеется? Но где взять на это средства? Белорусский лесхоз типа борисовского на 60 процентов субсидируется из госбюджета. Лесное хозяйство Минской области, к примеру, в 1997 году получило из казны 245 миллиардов 352 миллиона рублей. Да и то выпрашивало и "выцарапывало" деньги налогоплательщиков, да и шли они на основное — выращивание леса.

40 процентов средств на жизнь и развитие лесхозы зарабатывают сами. Перерабатывая мелкотоварную древесину и экспортируя изделия из нее, лесхоз Минской области в прошлом году получил чистой валютной выручки 4 миллиона долларов. Такие деньги тоже расходуются на неотложные нужды: на импортное оборудование, на зарплату рабочим да, в лучшем случае, чуток в заначку. Может, хватило бы и на какую дополнительную пожарную машину или бочку, но 30 процентов валютной выручки, как и всем хозяйствующим субъектам, приходится продавать державе задешево по курсу Нацбанка.

Недавно в прессе министр лесного хозяйства Беларуси Валентин Зорин высказался исчерпывающе о современном и одновременно архаичном экономическом положении лесоводов, которые, по его словам, "отдают в бюджет все заработанное".

По большому счету белорусский лесник в лесу не хозяин, но это констатация журналиста, а не его признание: по его глубокому убеждению, славянский лес не какой-нибудь немецкий частнособственнический, он издревле государственный, и иным быть не может. Что правда, то правда: лесное хозяйство, лесная промышленность, наука о лесе в июне 1998 года отметили 200-летний юбилей, и века эти отсчитываются с момента учреждения в России царем Павлом I Лесного департамента. С тех еще пор и белорусская отрасль пошла по тому же пути и не намерена с него сворачивать.

Итак, полноправным хозяином белорусского леса считается государство. Национальное богатство находится в ведении Министерства лесного хозяйства (77 процентов угодий), Министерства сельского хозяйства и продовольствия, Министерства обороны и Ивана Ивановича Титенкова как Управляющего делами президента. Могут ли они выставить надежный заслон всепожирающему огню? Могли бы, наверно, в принципе, по своим финансовым возможностям стать тем самым искомым "берегите", но вряд ли прямо в том заинтересованы, чтобы противостоять "всенародному поджигателю". Коренной экономический интерес державы в лице ее структур состоит в том, чтобы наращивать прибыли на продаже предпочтительно на экспорт изделий из спелого леса. Для верхушек и привлекательны "вершки", ну а мужику-лесовику, как медведю невезучему, достаются "корешки".

Надо особо отметить, что в Борисовский лесхоз десантировались в основном сотрудники государственных изданий и к ним "приблудилась" нетипичная "Народная воля". По-дружески посмеиваясь над ее представителем, коллеги придумали заголовок для будущей статьи в независимой газете: "Доколе простой белорусский мужик будет платить попенную плату?".

Что такое "попенная плата", объяснил еще Владимир Даль: "попенный, считая по пням или по числу срубленных дерев". Это деньги за дозволенную вырубку леса, которые пользователь вносит в казну или владельцу. Белорусский лесовод деревья только выращивает, а рубят их, ими торгуют, имеют на них барыши другие, и промышленники вносят попенные деньги в госказну, а не в кассу лесхоза. И даже за то, что лесхоз выращивает, скажем, дуб, хозяйство облагается "попенщиной" (130 тысяч рублей за обезличенный кубометр) в пользу той же госказны. Экономически объяснить феномен очень трудно, если вообще возможно: это плата государству за то, что дуб взращивается под эгидой... государства. Сеятель и хранитель деревьев платит за "пень" во втором значении слова: ведь так называют и нижнюю часть живого леса, от комля до первых сучьев. Вообще систему взаиморасчетов с державой лесоводы характеризуют как перекладывание средств из одного кармана в другой.

Впрочем, в дебри экономических отношений лесные руководители областного и районного уровня лезть не хотели. Как со стороны казалось, не очень-то они сами верили в успех предпринятой противоогненной пропагандистской кампании ввиду наступившего лета, возможной суши и повышенной пожароопасности. "Если хотя бы пару человек убедите беречь лес, — сказали хозяева пишущим гостям, — и на том спасибо".

С этим более чем скромным напутствием журналистский десант и отбыл обратно в Минск.

В это время в столице чиновники, директора, юристы, предприниматели живо обсуждали сенсацию: 11 мая 1998 года Совмин принял постановление "О некоторых мерах по регулированию экспорта лесоматериалов". С 15 мая заморожен вывоз белорусского спелого леса за границу (как однажды выразился по телевидению И.И. Титенков) "бревном" — то есть в виде сырья, необработанным. Как известно из информированных источников, управделами и лоббировал принятие такого решения правительства. Происходит передел ресурсов ценного товара, приносящего валюту. Если до того лес экспортировали более 900 субъектов хозяйствования, то теперь составят список государственных спецэкспортеров древесины и продукции из нее. Кто в нем окажется первым, и гадать не надо, это очевидно. Последним в этом ряду — лесоводам — и волноваться не о чем: их этот передел практически не касается. Госструктуры оттесняют от доходного промысла предпринимателей, устанавливая на нее свою монополию, а производители национального достояния остаются в том же положении, как и при царе Горохе. Благо, белорусский лесник покладист, зарплатой и житьем-бытьем в общем доволен, про себя твердо памятуя историческое высказывание Петра I о сути своего ремесла "дело сие воровское...".

...Мчал автобус по лесистому (47 процентов) Борисовскому району. Вдоль шоссе стоял послевоенный лес среднего возраста в 46 лет. Окрест дозревали хвойные насаждения (71 процент), входили в силу твердолиственные породы (71 гектар из 114 тысяч гектаров леса). И на каждом квадратном километре уже созрело по 180—200 кубометров продуктивного леса на радость государевым экспортерам. Вокруг простирался благополучный, не испытавший резкого падения, помаленьку развивающийся опытный Борисовский лесхоз, где-то там вдали граничащий со знаменитым Березинским заповедником.

На этом пространстве так и не был найден чуткий, бдительный, разумный, настоящий "берегите"... И где его сыскать при таких делах — леший его знает!

Стыхія

## Дажджу чакалі, але не такога...

У мінулыя выхадныя з-за моцных лівняў пацярпеў шэраг раёнаў Мінскай вобласці. Як паведаміў сакратар камісіі па надзвычайных сітуацыях Мінскага аблвыканкама Мікалай Сталярэц, сур'ёзны ўрон водная стыхія нанесла многім гаспадаркам Чэрвеньскага, Слуцкага, Капыльскага, Пухавіцкага і Барысаўскага раёнаў.

Амаль 30 населеных пунктаў у Пухавіцкім раёне засталіся без тэлефоннай сувязі. Камісіі па надзвычайных сітуацыях удакладняюць памеры матэрыяльнага ўрону, які нанеслі гаспадаркам ліўневыя дажджы. Але цяпер ужо можна сказаць, што сур'ёзна пацярпелі пасевы на многіх сотнях гектараў.

**Аксана АСПІШЧАВА.**

## Гарачыня наклікала бяду

Небывалая гарачыня, якая стаяла на Гомельшчыне ў апошнія дні, недарма выклікала сур'ёзныя апасенні ў спецыялістаў. Развязка выпала на выхадныя дні. У суботу і ў нядзелю па вобласці пранесліся штармавыя і ўраганныя вятры, а ў шэрагу раёнаў прайшлі моцныя дажджы з градам.

Як паведамілі ў штабе грамадзянскай абароны вобласці, асабліва пацярпеў ад стыхіі Ельскі раён. Тут сарваны ветрам стрэхі больш чым з дзесяці прыватных дамоў, а ў некаторых саўгасах і калгасах — шыфер з гаспадарчых памяшканняў. У Жыткавіцкім раёне выпала паўмесячная норма ападкаў, у шэрагу гаспадарак ад граду пацярпелі пасевы. Але самая вялікая трагедыя адбылася ў нядзелю каля васьмі гадзін вечара ў вёсцы Праходы Петрыкаўскага раёна. На аўтобусным прыпынку ў час навальніцы разрадам маланкі былі смяротна траўміраваны два мясцовыя жыхары — 57-гадовы рабочы Навасёлкаўскай птушкафабрыкі і пенсіянер.

**Віктар КОТАЎ,**
**БелТА.**

Акцыя

## Пірацтву — бой!!!

27 чэрвеня на цэнтральнай пляцоўцы парка імя М.Горкага з 13 да 22 гадзін пройдзе беспрэцэдэнтная на Беларусі акцыя па барацьбе з пірацкімі аўдыё- і відэазапісамі.

Адразу трэба папярэдзіць, што распачнецца мерапрыемства дзействам не для слабанервовых — на працягу паўгадзіны бульдозерам будуць знішчаны тысячы пірацкіх запісаў касет і дыскаў.

Дарэчы, у акцыі возьмуць удзел семнаццаць лепшых беларускіх рок-гуртоў, сярод якіх "Крыві", "Палац", "Крама", "Троіца", "NRM", "Камелот", "Нейра Дзюбель" і "Песняры".

"Народная воля", паважаючы аўтарскія правы, далучаецца да акцыі.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

## Абарона тых, хто трапіў у няміласць

Цяпер і ў Брэсце ёсць арганізацыя па абароне правоў чалавека. Міністэрства юстыцыі зарэгістравала Беларускую секцыю Міжнароднага таварыства правоў чалавека, праўленне якой — у горадзе над Бугам. Яе мэты — наданне галоснасці фактам парушэнняў, абарона тых, хто трапіў у няміласць да ўладаў, і г.д.

**Ігар СЦЯПАНАЎ.**

У свеце

## У Швецыі спыніла існаванне кожная пятая газета

За апошнія дзесяць гадоў у Швецыі спыніла сваё існаванне кожная пятая газета. Колькасць штодзённых выданняў зменшылася з 559 да 441. Прычынай гэтага стаў эканамічны крызіс у краіне. І што самае сумнае, некаторыя камуны пазбавіліся ўласных выданняў, а карціна жыцця ў многіх месцах не адлюстроўваецца ў прэсе.

## Дом, у якім на ўсіх хопіць цяпла

У Швецыі спраектаваны і будуюцца дамы без ацяплення. Адзінай крыніцай цяпла ў іх будзе сам чалавек, а таксама розныя электрапрыборы.

Як падлічылі спецыялісты, у год чалавек выдзяляе 300 кілават цяпла, а гэтага дастаткова для падтрымання нармальнай тэмпературы ў жыллі. Пры добрай ізаляцыі (якая ў 5 разоў перавышае сярэднюю) гэтага можа хапіць, каб дом не меў патрэбы ў дадатковых крыніцах абагрэву. Спецыяльная сістэма, прадугледжаная праектам, дасць магчымасць таксама "вылоўліваць" цяпло з паветра ў вентыляцыі.

Першыя дамы новага тыпу будуць заселены ў 1999 годзе ў Гетэбаргу.

**Інэса МОІН,**
**БелТА.**

Резонанс

# Выбор в преддверии выборов

Выступая в "Народной воле", господин Нистюк дал подробный, мне кажется, даже слишком подробный прогноз событий, связанных с выборами президента Беларуси, которые, согласно демократическим канонам должны состояться через год.

Он правильно указывает на разобщенность оппозиции. Одна из причин такого положения — отсутствие объединяющей идеи. Идея сбросить Лукашенко с трона, конечно, способна воодушевить многих. Однако электорат или, скажем по старинке, простой народ не озабочен такой проблемой. Тут много причин. Одна из главных — старательная идеологическая обработка, проводимая на протяжении длительного времени, подкрепляемая регулярными выступлениями *главного идеолога* и вождя нашего.

Да, люди раздражены и негодуют, особенно те, кто живет вдали от крупных центров. Число недовольных растет. (Зарплата в большинстве колхозов и совхозов составляет около полдоллара в день. Такое трудно найти даже в Африке. В любой стране Азии, за исключением Афганистана, оплата труда выше!)

Но недовольных постоянно, методично отвлекают от крамольных мыслей. И здесь неоценимую помощь, между прочим, оказывают российские телеканалы. То, что показывают там, особенно по ОРТ, успокаивающе действует на бедствующих белорусов.

Там, в России, население живет, если верить ОРТ, в состоянии тихого бунта и горестного отчаяния. Шахтеры ложатся на рельсы, организуют голодовки, не выходят из забоев, везде все разворовано. А у нас тут тишь да благодать. Правда, тишь эта больше похожа на кладбищенскую...

На месте Александра Григорьевича я учредил бы весомую премию теледеятелям типа Доренко, которые в таких гигантских объемах тащат грязь на ангажированный экран. (А может быть, негласно такая премия уже существует?)

Теперь — что касается претендентов на президентский пост. Их будет больше чем достаточно, и Лукашенко это только на руку. А когда двое выйдут на финишную прямую, то наш "батька", надо думать, в одночасье уложит любого претендента. Для этого обычно используется ударная доза компромата. А отмыться претендент не сможет: ну кто ему даст телеканал на этот случай — туда и в лучшие времена не пускали на пушечный выстрел инакомыслящих!

Между прочим, Геннадий Карпенко, основной претендент от демократических партий, уже побывал в шкуре "мафиози", "сорвав поставки узбекского хлопка на Беларусь". Такое клеймо навесил на него наш "батька". Карпенко пытался судиться с Александром Григорьевичем, но дело это где-то увязло, а Геннадий Дмитриевич благородно снял свои обвинения.

Это показывает его уровень как лидера. Если бы Карпенко дорожил борьбой за власть, он сражался бы за любой шанс. Но что взять с Геннадия Дмитриевича: он обыкновенный порядочный человек, без особых амбиций, интеллигент, интеллектуал. В наше время такие не имеют никаких шансов на успех, особенно если учесть сущность нынешнего режима.

В этом отношении — по бойцовским качествам — Виктор Гончар, человек в народе известный, явно сильнее Карпенко. Кроме того, у него хорошо подвешен язык, плюс умение держаться и держать удар, плюс импозантный внешний вид, плюс политический задор, необходимый каждому, кто ищет общественное признание.

В общем, у Гончара, я считаю, больше шансов, чем у Карпенко, и Виктор Иосифович, по имеющимся сведениям, сознавая свои преимущества, твердо намерен выдвигать свою кандидатуру на почетный пост, даже если ему придется самому собирать подписи.

Но Гончара не желают видеть в числе кандидатов в президенты даже в родной Объединенной гражданской партии. Он, видите ли, не устраивает многих тем, что, мягко говоря, непоследователен, разные обиды вспоминаются.

Ему ставят в вину участие в команде Лукашенко на прошлых выборах. Но кто мог разглядеть в директоре совхоза будущего строителя тотальной системы власти? Кто мог предположить, что "антикоррупционер", пересчитавший каждый государственный гвоздик на даче у Шушкевича, станет летать на персональном самолете за десять тысяч километров для того, чтобы стать участником спортивного зрелища?

Да, власть развращает. Абсолютная власть развращает абсолютно. И все же она развращает избранных, меченых, способных использовать власть в неограниченных дозах, упивающихся ею, как хмельным зельем.

Возникает резонный вопрос: где гарантии, что тот же Гончар не станет на путь того, кого он заменит? Таких гарантий никто дать не может. И все же, мне кажется, не следует дуть на воду, обжегшись на молоке.

Утверждаю, что Гончара не поддержат другие партии и организации — те, кто сегодня поддерживают Карпенко.

Да, партийная поддержка важна конечно, но переоценивать ее сегодня, в условиях, когда партии малочисленны и не имеют доступа к средствам информации, не следует. А возможности партийных активистов, их влияние весьма слабы. Поддержка населения за счет харизмы кандидата сегодня гораздо важнее. Только здесь можно найти ключ к успеху.

Впрочем, не стоит зацикливаться на одной кандидатуре в предварительном отборе. Думается, что тот же коммунист Калякин, человек здравомыслящий, без комплексов, мог бы с гораздо большей пользой руководить государством, чем деятель, который пытается решать все государственные и личные вопросы только лишь с помощью политических спекуляций и силовых методов и который умудрился пересcориться со всем миром.

**Вячеслав ОВСЕЙЧИК,**
**житель г.Бобруйска.**

